№ 86 (4133)

4 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**ДА ЎВАГІ!**

*У сувязі з выхаднымі і нерабочым панядзелкам выхад наступнага нумара "Народнай Волі" пераносіцца на 9 лістапада. Да сустрэчы, шаноўныя чытачы, у сераду!*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ФАКТ

## Мінчан стала больш

Насельніцтва Мінска за дзевяць месяцаў гэтага года павялічылася на 6,5 тыс. чалавек. Цяпер мінчан 1 млн 966,3 тысячы чалавек (на 1 кастрычніка 2016 г.). У асноўным павелічэнне колькасці адбылося за кошт натуральнага прыросту. Таксама ў сталіцу пераязджалі людзі з іншых рэгіёнаў і краін.

Дарэчы, у Мінску зараз пражывае больш за 20% ўсіх жыхароў Беларусі, у 2000 годзе гэтая лічба складала 16,8%.

**Святлана САЛАДУХА.**

ЭКАНОМІКА

## Па поўным графіку і не толькі...

У першым паўгоддзі 2016 года ў няпоўным рэжыме працавалі адразу некалькі найбуйнейшых прадпрыемстваў Баранавічаў: аўтаагрэгатны завод, Баранавіцкае вытворчае баваўнянае аб'яднанне, завод аўтаматычных ліній і завода станкапрылад.

Ці палепшылася там сітуацыя, даведаліся мясцовыя журналісты.

Аказалася, што на баваўняным прадпрыемстве і Баранавіцкім аўтаагрэгатным заводзе, паводле слоў прадстаўнікоў адміністрацыі, справы сёння ідуць няблага: «працуем па поўным графіку, з 8-гадзінным працоўным днём».

Ва ўмовах поўнай занятасці гэтыя прадпрыемствы плануюць працаваць і ў лістападзе.

А вось паводле слоў працаўнікоў Баранавіцкага завода станкапрылад, у кастрычніку прадпрыемства працавала на няпоўную магутнасць і, хутчэй за ўсё, гэтак жа будзе працаваць у лістападзе і снежні. У няпоўную сілу працягвае працаваць і Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній. З 1 лістапада для эканоміі электраэнергіі на прадпрыемстве змянілі графік, і цяпер яго работнікі працуюць з 11.00 да 18.00.

БЛІЦ

# 7 Лістапада: ці трэба нам такое свята?

*У беларускім календары 7 лістапада пазначана як Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі.*

*Ужо даўно не існуе Савецкага Саюза, а ў Беларусі ды яшчэ ў адной краіне на постсавецкай прасторы – Кыргызстане – гэты дзень застаўся дзяржаўным святам і выхадным днём.*

*Што мы адзначаем 7 лістапада?*

*Што святкуем, ведаючы пра тое, колькі гора, смутку і бязвінных ахвяр прынёс нашай краіне камуністычны рэжым?*

*Апазіцыйныя партыі правацэнтрысцкага накірунку прапаноўваюць надаць гэтай даце новы сэнс, перайменаваць свята 7 Лістапада ў Дзень памяці і жалобы.*

*А што думаюць па гэты конт асобы, да якіх "Народная Воля" звярнулася з пытаннем:*

**Тамара МАЦКЕВІЧ, педагог:**



– Я лічу, што не трэба. Нават як Дзень памяці лепш яго не ўзгадваць.

Насамрэч гэта не свята, а знак, сімвал таго, што мы – савецкія людзі і працягваем савецкую традыцыю. Дарэчы, і цяперашнія сцяг і герб служаць тым самым мэтам, каб на ўзроўні падсвядомасці прышчапіць беларусам "вірус саўка". Таму чым раней мы пазбавімся ад стэрэатыпаў, якія нам навязваюць, тым лепшымі будуць у нас перспектывы пабудаваць цывілізаванае, вольнае і заможнае грамадства.

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ, кандыдат гістарычных навук:**



– З аднаго боку, Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года ліквідавала Расійскую імперыю і дала магчымасць самавызначыцца шматлікім народам, якія жылі на яе тэрыторыі. Некаторым дзяржавам (Фінляндыі, Польшчы, краінам Балтыі) удалося адстаяць сваю незалежнасць. Іншым, у тым ліку і беларусам, прыйшлося трапіць у залежнасць да не менш жорсткай імперыі – бальшавіцкай. Ленін не мог пагадзіцца з незалежнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі перш за ўсё таму, што ён і яго памагатыя "хвэрэлі" на ідэю сусветнай рэвалюцыі і імкнуліся зрабіць так, каб як мага больш краін сталі "савецкімі". Дарэчы, гэты план напрыканцы канца 1930-х і ў сярэдзіне 1940-х паспрабаваў рэалізаваць "бацька народаў" Іосіф Сталін.

Пра тое, што для бальшавікоў беларусы былі разменнай манетай, сведчыць і той факт, што падчас мірных перамоў з уладамі Другой Рэчы Паспалітай у Рызе ў 1920–1921 гадах бальшавіцкая дэлегацыя была гатова аддаць палякам значную частку Беларусі ўключна з Мінскам. Ад рук той жа савецкай улады ў 1930-х гадах загінулі лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

Гэтую страту беларускае грамадства адчувае па сённяшні дзень праз адсутнасць добра падрыхтаваных эліт. Сёння наспеў час, каб наша грамадства перагледзела сваё стаўленне да савецкага мінулага і нарэшце пачало разглядаць сваю гісторыю з беларусацэнтрычных пазіцый. Гэта вельмі важны крок у працэсе фарміравання нацыянальнай свядомасці беларусаў.

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР:**



– Хто хоча – хай святкуе, хто не хоча – не святкуе. Ёсць жадаючыя прыйсці да помніка Леніну і ўскласці кветкі – хай ідуць. Любы нармальны чалавек вам скажа: чым больш выхадных, тым лепш. Той сэнс, які надаваўся святу 7 Лістапада ў савецкія часы, згубіўся даўно. Выйдзіце сёння на вуліцу і спытайце ў людзей, асабліва моладзі, што гэта за свята, і большасць з іх пацісне плячыма, але падтрымаюць, каб 7 лістапада заставаўся выхадным днём. Гэта чалавечы фактар, не больш. Тыя, для каго 7 лістапада было святам, адзначалі і Вялікдзень.

Але адно ведама ўсім: Бог на зямлі не жыве. Бог павінен быць у душы.

**Лілія КОБЗІК, эксперт у галіне турызму:**



– Сапраўды, лагічна было б зрабіць 7 лістапада Днём памяці ахвяр таталітарызму. Але, здаецца, гэта было б магчыма толькі ў тым выпадку, калі б у нас, як амаль што ва ўсіх былых краінах былога Саюза, адбылася дэсаветызацыя. А гэта значыць, трэба перайменаваць вуліцы, названыя ў гонар кіраўнікоў Кастрычніцкай рэвалюцыі, прыбраць з вуліц шматлікія помнікі правадырам. Даўно варта было б вярнуць у нашы гарады гістарычныя назвы і ўшанаваць памяць сапраўдных беларускіх герояў, выбітных асоб, якія з'яўляюцца нацыянальнымі сімваламі. Гэта, па-першае, умацавала б самасвядомасць, а па-другое, дадало б турыстычнай прывабнасці нашым гарадам і вёскам.

Добра было б, каб аднойчы мы зрабілі, як тыя ж літоўцы: яны звезлі ўсе помнікі таталітарнай эпохі ў музей пад адкрытым небам – Грутас парк – і проста паказваюць гэтую прастору турыстам як напамін пра час, які, на жаль, быў перажыты краінай, які стаў сумнай гісторыяй і з якога, нарэшце, зрабілі належныя высновы.

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ, крытык, гісторык літаратуры:**



– Я прапанаваў бы перайменаваць 7 Лістапада ў Дзень ліквідацыі Расійскай імперыі і святкаваць яго шырока, на рэспубліканскім узроўні, з транспарантамі, радаснымі бээрэсэмаўцамі, піянерамі і беларускім войскам на чале святочных калон.

**Аляксандр ВАЎЧАНІН, фельчар «хуткай дапамогі»:**



– Я 7 лістапада працую, і святочны дзень мне ўдвая будзе аплачваць. Так што чым больш святаў, тым для мяне лепш. А калі сур'ёзна, то, на мой погляд, ёсць у нашай гісторыі даты больш важныя, якія трэба адзначаць на дзяржаўным узроўні. 25 сакавіка, напрыклад. У гэты дзень у 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Альбо Дзяды – якраз побач з 7 лістапада, і гэта той дзень, калі мы ўспамінаем памерлых і ахвяр сталінізму праз дарогу ў Курапаты.

**Лідзія ЗІЗА, чытачка «Народнай Волі»:**

– У Францыі ёсць выслоўе: "Хто забыў сваё мінулае, той пражывае яго нанова".

На вялікі жаль, на дзяржаўным узроўні генацыд нашага народа, які быў следствам Кастрычніка 1917 года, не асуджаны, як асуджаны быў фашызм Нюрнбергскім трыбуналам адразу пасля вайны. Ці не таму сёння нямецкая нацыя жыве годна?!

**Аляксей ЕЛІСЕЕЎ, кандыдат гістарычных навук, намеснік старшыні Беларускай партыі левых «Справядлівы свет»:**



– Сёння адны дэманізуюць Кастрычніцкую рэвалюцыю, другія – ідэалізуюць. І пры такім аднабаковым стаўленні змест і значэнне гэтай рэвалюцыі становіцца выпусташаным.

Я ж заўважаю, што Кастрычніцкая рэвалюцыя набывае ўсё большае актуальна-палітычнае значэнне для нашага сучаснага жыцця. Пры сённяшнім крызісе і незадаволенасці мас сцягі якой рэвалюцыі, калі не Кастрычніцкай, народ павінен зрабіць сваімі? Для мяне дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца напамінам пра тое, што сцэнарый кастрычніка 1917 года магчымы і ў сённяшняй Беларусі, калі палітычная і сацыяльна-эканамічная сістэма не будзе ўлічваць патрэбнасці беларускага грамадства – патрэбнасць у справядлівасці, свабодзе, магчымасці выбіраць уладу і ўплываць на прынятце рашэнняў у краіне.

Лічу, што свята Кастрычніцкай рэвалюцыі павінна застацца, і гэта павінна быць свята не ўлады, а ўсіх тых, хто выступае за змяненне палітычнай і сацыяльна-эканамічнай мадэлі Беларусі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПАД ГРАДУСАМ



## Снег і дажджы

У гэтыя выхадныя надвор'е будзе вельмі нестабільнае. Чакаецца мокры снег, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу панізіцца – 0...-7ºС, па поўначы пры праясненнях паветра астудзіцца да -10ºС.

На пачатку наступнага тыдня надворе будзе вызначаць паўднёвы цыклон, чакаецца непагадзь з парывістым ветрам. У панядзелак 7 лістапада будзе воблачна, на большай частцы тэрыторыі Беларусі чакаецца ападкі (мокры снег, дождж), у асобных раёнах – моцныя ападкі, ноччу і раніцай слабы галалёд.

ЧУЛІ?

## Асудзілі за забойства сабакі

Інцыдэнт адбыўся 1 верасня каля жылога дома ў сталічным мікраёне "Сухарава", куды па выкліку прыбыла служба адлову бяздомных жывёл – была скарга на згаю сабак, якія бадзяюцца па наваколлі.

Далей версіі здарэння адрозніваліся. Жыхары сцвярджалі, што мужчыны пачалі стральбу прама ў двары і забілі мясцовага сабаку, хаця паводле інструкцыі павінны былі ўжываць толькі снатворнае, пасля чаго аформіць жывёлу ў прыёмнік. Але «Фаўна горада» настойвала: сабаку ніхто не забіваў, яна ў той дзень наогул збегла кудысьці.

Пасля апытання сведак і прагляду запісаў з камер відэназірання суд прызнаў супрацоўніка прадпрыемства «Фаўна горада» вінаватым па артыкуле "жорсткае абыходжанне з жывёлай, якое пацягнула яго гібель". Мужчына аштрафаваны на 11 базавых велічыняў – 231 рубель.

**Святлана САЛАДУХА.**

ТУРЫЗМ

## Бясплатны кітайскі транзіт

*Для беларусаў, якія падарожнічаюць транзітам праз Кітай, адмянілі візы.*

Як паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі, рэжым бязвізавага знаходжання ў КНР пры транзіце ў трэцця краіны распаўсюджваецца толькі на тых, хто падарожнічае міжнароднымі авіярэйсамі.

У паветраных пунктах 15 гарадоў Кітая дзейнічае рэжым 72-гадзіннага бязвізавага транзіту для замежнікаў, у трох – рэжым 144-гадзіннага.

АНОНС

## О лекарствах и жадности

*Минчанка Ирина Абрамович побывала в Киеве и Тбилиси и сравнила цены на лекарства у них и у нас...*

**(Читайте на 4-й стр.)**

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

# Счастье в дом

*Нобелевский лауреат Светлана Алексиевич помогла многодетной семье начать строить собственное жилье.*



Светлана Алексиевич с семьей Ревенко.

Фото SVABODA.ORG

История любви Любови и Василия Ревенко достойна целого романа…

Мужчина встретил женщину. Влюбился. А у нее пятеро детей от первого, распавшегося, брака. Ну и гуд бай, май лав… Так поступили бы тысячи, и вряд ли их кто-нибудь осудил бы. Но один из тысячи всегда идет против течения. Через некоторое время Василь сказал своей Любови просто и ясно, как солнце взошло: «Выходи за меня! Я буду хорошим отцом твоим детям». А для закрепления союза они родили шестого – сына Михаила.

Правда, квартирный вопрос в семье все годы стоял ребром. В Слониме многодетная семья Ревенко снимает частные квартиры, в данный момент – деревянный дом. Это накладно. Нужно собственное жилье.

Государство имеет возможность дать многодетной семье льготную квартиру. Но первый взнос должен быть 3600 новых рублей – 36 миллионов на старые деньги. И начинается в этом красивом романе глава о простой арифметике. Работает один Василь. Естественно, скопить невозможно, хотя глава семьи зарабатывает для районного города и неплохо – около 500 деноминированных рублей в месяц. Есть небольшое пособие по уходу за младшим ребенком – 280 деноминированных рублей. Но это ж на сколько ртов надо раскинуть.

В общем, мечта о квартире раз за разом тонула в тумане. В райисполкоме соглашались, что многодетная семья должна жить в своей квартире. Но финансами помочь отказалась – мол, нет возможности. Разве только единовременная адресная помощь, но ее размеры очень далеки от нужной суммы. Банки малоимущим кредиты не дают. Обеспеченных друзей, которые одолжили бы около 2 тысяч долларов, у Ревенко нет. Так что летом, когда в Слониме сдавали дом для льготников, взнос семья не внесла. Теперь готовится к сдаче дом в январе следующего года, и он тоже мог проплыть мимо… Если бы не один добрый человек.

Нобелевский лауреат по литературе Светлана Алексиевич узнала о неустроенности многодетной семьи Ревенко из СМИ. И решила, что должна помочь ей – по-библейски поделиться своей премией, как сказала потом Светлана Александровна. Ее тронула их история любви, она даже удивилась мужеству женщины, которая смогла найти силы уйти от первого мужа-алкоголика с пятью детьми на руках. Алексиевич позвонила в Слоним. Уж не знаю, как только у Любы от волнения и счастья сердце не выпрыгнуло из груди, но потом она призналась честно: кто такая писательница Алексиевич, не знала. Про премию, которую та получила, не слышала, книг ее не читала.

На благотворительное дело это, естественно, не повлияло. Алексиевич сделала дар: внесла первый взнос за квартиру Ревенко. Потом встретилась в Минске со всеми членами семьи, которые специально для этого приехали в столицу. Тепло поговорили, Светлана Александровна подарила свои книги.

К слову, это далеко не первый раз, когда нобелиатка помогает людям. Но благотворительность свою она, как правило, не афиширует. Здесь же писательница поступила иначе, потому что после появления в печати материалов об этой семье некоторые читатели ядовито прокомментировали: «А зачем рожала?» Наверное, именно такая вульгарность сердца некоторых соотечественников задела Светлану Александровну, и она приняла свое благородное решение. Собственно, в своем творчестве писательница исследует именно эту тему: «Сколько человеческого в человеке? В нем и бездна, и небо. Как защитить это человеческое? От биологии, от звериного подсознания…».

А как вы ответите на эти вопросы?

**Виктория ДРОЗД.**

